**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 22 (843) 2 чэрвеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
# Вольнае Глыбокае
vglybokaye@tut.by













**Апошні званок у Глыбоцкай СШ №1.** *Фота Леаніда Юрыка.*

# Варапаеўскі завод жалезабетонных вырабаў таксама пачаў працэдуру банкруцтва

■ Сяржук Серабро

**Эканамічным судом Віцебскай вобласці 13 траўня ўзбуджана вытворчасць па справе прабанкруцтваДаччынага камунальнага ўнітарнага вытворчага прадпрыемства «Варапаеўскі завод жалезабетонных вырабаў».**

Па выніках першага пасяджэння суда прадпрыемству, якое знаходзіцца ў гарадскім мястэчку Варапаева Пастаўскага раёна, прызначаны ахоўны перыяд да 4 ліпеня бягучага года.

Гэта прадпрыемства было заснавана 28 лістапада 1958 года як раённая міжкалгасная будаўнічая арганізацыя. Вытворчасць жалезабетону тут наладзілі ў 1965 годзе. У апошні час выраблялася больш 400 найменняў ЖБВ, напрыклад пліты перакрыццяў шматпустотныя для жылых і грамадскіх будынкаў, пліты рабрыстыя для пакрыццяў сельскагаспадарчых і прамысловых будынкаў, лесвічныя маршы, панэлі жалезабетонных агароджаў, падмуркі стаканнага тыпу пад калоны, перамычкі брусковыя,кольцысценавыя для круглых студняў вадаправода і каналізацыі.

У 2006 годзе завод быў перададзены ў вядзенне КУП ПСП «Полацксельбуд», па стане на 1 кастрычніка 2014 года на прадпрыемстве працавалі 140 чалавек, пры насельніцтве мястэчка ў 2571 чалавек.





# У Паставах затрымалі руфераў, якія рабілі сэлфі на даху водазабору

**29 траўня ў Паставах былі затрыманыя трое маладых людзей, якія забраліся на дах адміністрацыйнага будынка водазабору «Спорыца» і фатаграфаваліся там на мабільныя тэлефоны.**

Прыбыўшы на спрацоўванне трывожнай сігналізацыі, нарад Пастаўскага аддзялення аховы затрымаў 17-ці, 18-ці і 20-гадовага мясцовых жыхароў, якія пракраліся на тэрыторыю водазабору і па пажарных усходах забраліся на дах, каб зрабіць сэлфі.

*ННВ.*



**Падача абвестак па тэлефоне № 166**





ISSN 2077-8023



### Пастаўскі раён

## Не спыніўся ў развіцці

■ Кастусь Александровіч

**З вялікімі цяжкасцямі сутыкнуліся цяпер многія айчынныя вытворцы, якія не пры–выклі разлічваць на ўласныя сілы, пры адсутнасці ранейшай дзяржпадтрымкі.**

Моцна прасеўшы, расійскі рынак балюча ўдарыў і па буйнейшым у Пастаўскім раёне прадпрыемстве, прыватным мэблевым цэнтры. З ранейшых тысячы працуючых у калектыве засталося каля сямісот, аднак ПМЦ пераадолеў спад, прадоўжыў адгружаць свае міжпакаёвыя дзверы з каштоўных парод драўніны ў 22 краіны свету і толькі летась атрымаў 13 млн. долараў выручкі і 18 млрд. рублёў чыстага прыбытку. Большасць вытворцаў такое становішча цалкам бы задаволіла, але толькі не кіраўніка ПМЦ Анатоля Бабічава. Ён запланаваў і ўжо ўзвёў за паўгода яшчэ адзін філіял, новы сучасны завод па вытворчасці трохслойнай паркетнай дошкі, куды летам пачнуць завозіць найноўшае ў галіне абсталяванне і станкі-аўтаматы. З гэтай будучай вытворчасцю і існуючымі тэхналогіямі на мэблевым цэнтры нядаўна пазнаёміўся глава вобласці Мікалай Шарстнёў і быў вельмі ўражаны ўбачаным. Старшыня аблвыканкама назваў ПМЦ унікальным прадпрыемствам, прыкладам для іншых на Віцебшчыне. На мэблевым цэнтры даўно выйшлі практычна на безадходную вытворчасць, сусветную якасць прадукцыі і пры вельмі нізкім сабекошце. На новай кацельні каэфіцыент карыснага дзеяння дасягне 98 працэнтаў, а гэта ўжо фантастычныя параметры. Для райцэнтра важна, што запуск у працу ў снежні новага завода прынясе яшчэ 80 новых высокааплочваемых працоўных месцаў.

### Аршанскі раён

## Стаўка на заграніцу

■ Чэслаў Якубовіч.

**Само жыццё прымушае многія беларускія прадпрыемствы ў наш час пашыраць кола заказчыкаў на новых рынках збыту, інакш проста не выжыць.**

Вось чаму не толькі ў абласным цэнтры, але і ў Оршы днямі на працягу некалькіх дзён праходзілі буйныя міжнародныя эканамічныя форумы. У горадзе над Дняпром для пошуку інвестыцый адвялі найбуйнейшую Лядовую арэну і адначасова арганізавалі выставу-ярмарку “Аршанскія традыцыі”. Аршанскі рэгіён мае значны прамысловы патэнцыял, ён цікавы таксама замежным бізнесменам сваімі лагістычнымі праектамі. Невыпадкова на Аршаншчыне сёлета высадзілася прадстаўнічая дэлегацыя дзелавых людзей з Польшчы на чале з дырэктарам Дэпартамента міжнароднага супрацоўніцтва і бізнесу Лодзінскага ваяводства Мацеем Ласкім. Услед за Расіяй менавіта польскі бізнес стаў важнейшым партнёрам аршанцаў. Летась тавараабарот мясцовых вытворцаў з Польшчай вырас адразу на 14 % і выйшаў у агульным аб’ёме экспарту на другое месца. Акрамя льнокамбіната з польскімі партнёрамі наладзілі цесныя сувязі станкабудаўнічы завод, мясцовыя прыватныя фірмы “Лінпак Пекенджынг Іст”, “Манулі Гідраўлікс Мануфактурынг Бел” і іншыя. Стаў цікавы Аршанскі раён і інвестарам са Славакіі, якія выказалі зацікаўленасць у стварэнні сумеснага аграпрадпрыемства, развіваць супрацоўніцтва ў дрэваапрацоўцы, энергетыцы. У наступным годзе ў райцэнтры можа разам са славакамі адкрыцца завод па перапрацоўцы аджыўшай сваё электронікі і бытавых прыбораў. Дарэчы, мясцовы льнокамбінат знайшоў сабе пакупнікоў у Індыі, а інструментальны завод падпісаў шэраг выгадных заказаў на пастаўкі сваёй прадукцыі заводам расійскага ВПК.

### Мёрскі раён

## Сядзіба знайшла гаспадара

■ Станіслаў Раманчук.

**Дзясяткі выдатных помнікаў архітэктуры мінулых эпох у нашай краіне застаюцца закінутымі і паступова прыходзяць у заняпад.**

А вось прыгожаму двухпавярховаму сядзібнаму дому рода Рудніцкіх з вёскі Асада Дзедзіна, што ў Мёрскім раёне, пашчасціла днямі болей. Яшчэ дабротны цагляны будынак плошчай болей 770 кв. метраў, які пачалі ўзводзіць у далёкім 1810 годзе, удалося прадаць на першых у вобласці электронных таргах. Яму пашчасціла, што гэтым лотам зацікавіліся тры патэнцыйныя пакупнікі, але адзін з іх потым адмовіўся ўдзельнічаць на аўкцыёне “Віцебскаблмаёмасці”. Першапачаткова таргі пачаліся з адной базавай велічыні ў суме 210 тысяч рублёў, а потым кошт продажу мяняўся нават 636 разоў. У выніку пачатковая цана вырасла ў шмат разоў, а новы гаспадар сядзібы набыў гэты аб’ект нерухомасці за амаль 13,6 млн. рублёў. Яшчэ 4 мільёны інвестар верне ў раённы бюджэт за расходы, патрачаныя на афармленне дакументаў на панскі дом. Па ўмовах гэтай здзелкі на працягу наступных двух гадоў пасля афармлення дагавору набыцця-прадажы новы ўласнік памяшкання павінен правесці рэстаўрацыю будынка. Яшчэ на працягу трох наступных гадоў ён не мае права перапрадаць старажытную сядзібу. А вось як яе выкарыстоўваць у далейшым для прадпрымальніцкай дзейнасці, пакупнік вольны сам выбіраць далейшы лёс старажытнай сядзібы. Самае галоўнае, што ў будынка з’явіўся гаспадар і будзе ў доме з цягам часу гатэль, рэстаран ці іншы аб’ект, гэта ўжо не так і важна. Дарэчы, перад гэтай здзелкай удалося прадаць адразу 9 аб’ектаў былога ваеннага гарадка ў Баравусе паблізу Наваполацка.

## Аб самым надзёным

### НЕ АД ДОБРАГА ЖЫЦЦЯ ПРЫХОДЗІЦЦА Ў БЕЛАРУСІ СКАРАЧАЦЬ СЁЛЕТА РАСХОДЫ ДЗЯРЖАЎНАГА БЮДЖЭТУ АДРАЗУ НА 7-8 %

■ Аляксандр Цішкевіч.

**Тым часам адчуюць першымі існуючыя бюджэтныя цяжкасці будучыя нашы студэнты, паколькі ўжо аб’яўлена, што колькасць бясплатных бюджэтных месцаў у беларускіх ВНУ будзе сёлета скарочана. На новы навучальны год у Беларусі на ўсе формы вышэйшага навучання плануецца набраць 63 тысячы першакурснікаў.**

Пачатак заключнага месяца вясны традыцыйна прынёс беларусам шмат святаў і выхадных дзён, да якіх сёлета дабавіліся ў праваслаўных хрысціян яшчэ Вялікдзень і потым асаблівы дзень памінання памерлых – Радуніца. Канешне ж, на першае месца ў нас адвялі святкаванне з ідэалагічных прычын усенароднага свята – Дня Перамогі. Праўда, у нашай краіне на 9 мая, у адрозненне ад суседняй Расіі, урачыстасці былі ўсё ж меней пампезныя, не прасякнутыя імперскім духам рэваншызму на фоне зноў супрацьстаяння Крамля з Захадам. Таму ў беларускай сталіцы і абласных цэнтрах беларускія войскі не маршыравалі на ваенных парадах, як на расійскіх прасторах.

Дарэчы, цяпер ужо нашы ўсходнія суседзі пачынаюць пакрыху пераймаць беларускі вопыт кіраўніцтва. Вось і пенсійны ўзрост услед за намі расіяне збіраюцца павысіць напрыканцы года, пра што ўжо заяўлялі шэраг іх высокапастаўленых афіцыйных асоб. Характэрна, што ў Расіі цяпер паступілі прапановы ўвесці і новы падатак для непрацуючых нідзе працаздольных грамадзян, пэўны аналаг беларускага ноу-хау на рынку працы для дармаедаў. У святочныя майскія дні мала хто з беларусаў успомніў, што ў гэты час споўнілася роўна 500 дзён з моманту прызначэння новага складу беларускага ўрада на чале з Андрэем Кабяковым.

Па меркаванні дасведчаных эканамістаў, за гэты перыяд дзейнасці айчынны Кабмін здолеў крыху ўтаймаваць інфляцыю, скараціць знешнія і ўнутраныя дысбалансы, а нацвалюта апошнім часам нечакана нават умацавалася. Аднак па-ранейшаму большасць даведзеных дырэктыўных параметраў развіцця народнагаспадарчага комплексу Беларусі не выконваюцца. З пачатку года ў эканоміцы працягваецца крызіс і невыпадкова ў І-м квартале 2016 года аб’ёмы прамысловай прадукцыі знізіліся яшчэ на 4,3 %, а айчынны ВУП скараціўся на 3,6 %. Хоць кіраўніцтва краіны патрабуе паўсюдна жалезнай дысцыпліны, але гэта не адбіваецца на паляпшэнні спраў на большасці прадпрыемстваў і арганізацый.

На гэтым вось фоне па адпрацаванай да дробязяў практыцы правядзення розных выбараў на месцах выбіралі так званых упаўнаважаных, якія потым падымалі рукі за падабраных дэлегатаў ужо V Усебеларускага народнага сходу. Дарэчы, у амаль двухмільённай сталіцы не знайшлося перад гэтым ніводнага памяшкання для правядзення форуму дэмакратычнай грамадскасці. Яго арганізатары вырашылі правесці Беларускі дэмакратычны кангрэс прама ў скверы ля помніка Янкі Купалы. Між тым глава дзяржавы напрыканцы красавіка ўжо прыгразіў адстаўкай ураду Беларусі і прыходам туды новых людзей пры адсутнасці ў эканоміцы па выніках паўгоддзя “соответствующих результатов”.

Для простых людзей, занятых паўсядзённай барацьбой за выжыванне, гэта – не самае галоўнае ў жыцці. Аднак многіх з нас закране адна з апошніх заяў міністра фінансаў Беларусі Уладзіміра Амарына. Ён папярэдзіў, што плануецца сёлета скараціць асноўныя расходы дзяржаўнага бюджэту на 7-8 %. Праўда, было пацверджана, што скарачэнні не зачэпяць сацыяльную сферу, але ў гэта слаба верыцца. Як-ніяк, мясцовым бюджэтам скароцяць датацыі з цэнтру і на месцах міжволі ўсім прыйдзецца скараціць расходы, аптымізаваць штаты, зацягнуць паясы. Добра яшчэ будзе, каб у глыбінцы хапіла сродкаў на выплаты без затрымак заробкаў бюджэтнікам, паколькі падаткі ў мясцовыя бюджэт паступаюць цяпер са скрыпам.

У цэлым па краіне не прафінансуюць амаль цэлы месяц ранейшых расходаў дзяржбюджэту, а гэта – ужо многія сотні мільярдаў рублёў. Прычынай цяжкасцей міністр назваў чэсна істотнае зніжэнне сярэднегадавых сусветных цэн на нафту, ад чаго дзяржказна не далічылася значных валютных паступленняў. Адначасова ўзнікла зноў чарговая расійска-беларуская сур’ёзная газавая спрэчка. Расійскі манапаліст “Газпрам” абвінаваціў нашы газавыя службы, што яны не даплацілі яму ў студзені-красавіку 125 млн. долараў. Як вядома, беларускі бок з гэтымі прэтэнзіямі не пагаджаецца, лічыць, што кошт расійскага газу несправядліва завышаны на 62 долары. Як далей будзе развівацца гэта калізія невядома, але рускія падалі іск у Міжнародны арбітражны суд, а пры дрэнным развіцці падзей “Газпрам” яшчэ болей дабавіць праблем беларускай эканоміцы.

Тым часам адчуюць першымі існуючыя бюджэтныя цяжкасці будучыя нашы студэнты, паколькі ўжо аб’яўлена, што колькасць бясплатных бюджэтных месцаў у беларускіх ВНУ будзе сёлета скарочана. На новы навучальны год у Беларусі на ўсе формы вышэйшага навучання плануецца набраць 63 тысячы першакурснікаў, у ССНУ – звыш 40 тысяч юнакоў і дзяўчат. Аднак бясплатна вучыцца ў ВНУ змогуць толькі 22 тысячы з іх і гэта ўжо каторы год адбываецца ў сацыяльна-арыентаванай дзяржаве.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 02.06.16 | | | | Пятніца 03.06.16 | | | | Субота 04.06.16 | | | | Нядзеля 05.06.16 | | | | Пан. 06.06. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +16 | +23 | +18 | +12 | +17 | +23 | +18 | +13 | +17 | +21 | +16 | +10 | +13 | +19 | +12 | +8 | +11 | +16 |
| Ціск | 750 | 751 | 750 | 748 | 748 | 749 | 747 | 745 | 744 | 744 | 744 | 743 | 743 | 745 | 745 | 746 | 747 | 750 | 751 |
| Вецер м/сек | 2 Ю | 2 Ю | 4 В | 2 В | 0 ШТЛ | 2 Ю-З | 2 Ю | 2 Ю-З | 5 Ю-З | 5 З | 4 С-З | 1 С | 4 С-З | 2 С | 4 С-З | 4 С | 3 С-З | 4 С-З | 4 С-З |
| Вільготнасць | 71 | 60 | 34 | 56 | 77 | 57 | 33 | 59 | 80 | 67 | 62 | 76 | 73 | 63 | 38 | 55 | 62 | 51 | 34 |

## Дзень за днём

**З-за зніжэння цэн Беларусь недаатрымала каля 1 млрд. USD ад экспарту калію і нафтапрадуктаў. Рост цэн у Беларусі за 4 месяцы склаў 6,4 %, што больш палловы гадавога прагнозу інфляцыі. Пачалі працаваць новыя 4 візавыя цэнтры Літвы. Расія пакуль не плануе даць Беларусі зніжку на газ. Дэкрэтны адпачынак для беларускіх мужчын можа стаць абавязковым. Да канца года ў Беларусі з'явіцца 26 тысяч новых зон падключэння Wi-Fi. Без віз замежныя грамадзяне змогуць прыязджаць лячыцца ў беларускія санаторыі. Экзамены ў айчынных аўташколах будуць здаваць толькі з відэарэгістратарамі аўто.**

# Важнейшыя навіны свету

**Румынія.** На базе ВПС краіны ў Дэвесэлу ЗША запусцілі ў работу сучасны комплекс супрацьракетнай абароны НАТО "Эгіда", Расія ўспрымае яго, як пагрозу сваёй бяспецы.

**Польшча.** На поўначы краіны ў пасёлку Рэдзікава пачалі будаўніцтва найноўшай ваеннай базы сістэмы супрацьракетнай абароны НАТО, яна павысіць абароназдольнасць палякаў.

**Францыя.** Еўрапарламент заклікаў краіны ЕС зрабіць больш жорсткімі санкцыі супраць Расіі за прыгнясненні крымскіх татар, падставай для іх адмены стане вызваленне Крыма.

**Аргентына.** Услед за адхіленнем ад улады прэзідэнта Бразіліі Д. Русеф распачалі крымінальную справу супраць яе былой аргентынскай калегі К. Кіршнер за махінацыі.

**Турцыя.** Прэзідэнт Т. Эрдаган заявіў, што Анкара не будзе выконваць шэраг патрабаванняў ЕС па барацьбе з тэрорам, праца над безвізавым рэжымам прыпынена.

**Расія.** Пасля вяртання з ЗША глава Ашчаднага банка Г. Грэф заявіў, што па ўзроўні тэхналогій вытворчасці РФ адстала ад заходніх краін і Кітая ўжо на некалькі дзесяцігоддзяў.

**Венесуэла.** Прэзідэнт М. Мадура абвясціў на 2 месяцы надзвычайнае становішча, у краіне татальны дэфіцыт тавараў і прадуктаў, электраэнергіі, набліжаецца калапс эканомікі.

**Індыя.** Міністр водных рэсурсаў Ума Бхарата пацвердзіла, што крана пачынае праект па перакідцы сцёку найбуйнейшых рэк і леднікоў Гімалаеў у засушлівыя раёны.

**Ватыкан.** Папа Рымскі Францыск прызначыў новым Апостальскім нунцыем у Беларусі 52-гадовага венгерскага святара мансер'ёра Габара Пінтэра, які валодае 9 мовамі.

**Расія.** Пасля матэрыялаў пра дачку прэзідэнта і вустрыц для Пуціна Крэмль дабіўся звальнення кіраўніцтва холдынга РБК, аднаго з апошніх незалежных СМІ краіны.

**Іспанія.** У правінцыі Касцілія-Ла-Манча з-за моцнага пажару на буйнейшым у Еўропе сметніку 70 тысяч старых шын эвакуіравалі звыш 9 тысяч чалавек мясцовых жыхароў.

**Швецыя.** Пасля перамогі спявачкі з Украіны Джамалы на конкурсе песні "Еўрабачання-2016" дзяржаўны тэлеканал "Расія-1" істэрычна абурайся ягонымі вынікамі.

**Украіна.** Дэпутат Вярхоўнай Рады А. Геращчанка пацвердзіў, што на "Еўрабачанне-2017" не змогуць прыехаць расійскія артысты, якія адкрыта падтрымліваюць захоп Крыма.

**ЗША.** Былы глава антыдопінгавай лабараторыі Масквы Р. Родчанкаў паведаміў аб прымяненні допінгу расійскімі атлетамі, каб выйграць медалі на Алімпіядзе-2014 у Сочы.

**Германія.** Пасля прызнанняў аб махінацыях з допінгам у расійскім спорце шэраг вядучых нямецкіх спартсменаў і функцыянераў запатрабавалі адхіліць Расію ад Алімпіяды-2016.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск**. Каб выжыць, як заявіў эканаміст Л. Злотнікаў, нам трэба рашыцца на рынкавыя рэформы, якія правялі эстонцы, і на стварэнне зоны свабоднага гандлю з Еўрасаюзам.

**Магілёў.** Газавы канфлікт Беларусі з РФ, як заявіў эканаміст Л. Марголін, вельмі сур'ёзны, бо прэм'ер Д. Мядзведзеў не вырашыў на саюзным Сауміне спрэчку двух жабракоў.

**Маладзечна.** КДБ Беларусі раскрыў карупцыйную схему дзейнасці супрацоўнікаў Мінскай рэгіянальнай мытні і мясцовага мытнага паста, дзе сістэматычна бралі хабар.

**Гарадзея.** Прама ў вагоне электрычкі па дарозе да мужа ў Баранавічы жанчына парадзіла дачку, пасля гэтага іх абедзвюх адвезлі на машыне "хуткай дапамогі" ў Клецкі раддом.

**Мінск.** Прадстаячая летам дэнамінацыя беларускага рубля, як заявіў эканаміст Л. Заіка, дае шанц ураду Беларусі палепшыць сітуацыю ў эканоміцы, не рабіць мінулых памылак.

**Гомель.** Пасля інцыдэнту ў рабочым пасёлку Касцюкоўка, дзе на 9 мая не правялі ніякіх мерапрыемстваў, звольнілі з працы ідэолага Чыгуначнага раёна, мэру – далі вымову.

**Барысаў.** З-за выпускнікоў школ па ініцыятыве міліцыі ў горадзе і па ўсёй Міншчыне зноў 11-12 чэрвеня не будуць прадаваць спіртныя напоі, "сухі закон" дзейнічаў і 30 мая.

**Гродна.** Пасля 8 месяцаў дзейнасці гандлёвая сетка "Гиппо" закрыла ў абласным цэнтры свой гіпермаркет плошчай 5200 кв. метраў, амаль 300 чалавек пазбавіліся працы.

**Кобрын**. З-за эканоміі газу гарачую ваду ў 60-тысячным райцэнтры сталі даваць у будні дні ў жылфонд па графіку з 4.00 да 8.30 і з 16.00 да 24.00 тэмпературай 50 градусаў.

**Мінск.** Падчас Рэспубліканскай універсітэцкай суботы міністр адукацыі Беларусі М. Журалкоў заявіў, што неўзабаве можа павысіцца кошт навучання ў айчынных ВНУ.

**Ліда.** Суд пакараў экснамесніка главы раёна па сацсферы А. Глаўніцкага 7,5 гадамі турмы, ён за хабар дапамог незаконна атрымаць больш 150 шэнгенскіх віз.

**Гомель.** Беларуская чыгунка адкрыла рух хуткасных электрацягнікоў фірмы Stadler да Мінска з прыпынкамі ў Бабруйску і Жлобіне, час у дарозе скароціўся да 3-х гадзін.

**Бяроза.** Жыхары раёна сабралі подпісы ў абарону арыштаванага земляка, бізнесмена Ю. Чыжа, але глава КДБ Беларусі заявіў, што няма падстаў выпусціць яго на свабоду.

**Раўбічы.** Новым галоўным трэнерам зборнай Беларусі па біятлоне БФБ прызначыла 63-гадовага расійскага спецыяліста В. Пальхоўскага, вясной гэту пасаду хацелі ліквідаваць.

**Мінск.** На "Еўрабачанні-2016" у нашага спявака Айвана, як заявіў музыкант "Песняроў" А. Жых, не было ні песні, ні майстэрства, каб выйсці ў фінал конкурсу.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# За адсутнасць блізкага святла будуць штрафаваць



■ ximik.info

**Вадзіцелі з 25 мая па 5 чэрвеня павінны ездзіць днём з уключаным блізкім святлом. Парушальнікам пагражае штраф у памеры да дзвюх базавых велічынь.**

У сувязі з заканчэннем навучальнага года і пачаткам летніх канікул, у мэтах прафілактыкі і папярэджання дарожных здарэнняў з удзелам дзяцей з 25 мая па 5 чэрвеня 2016 года ў рэспубліцы пройдзе спецыяльнае комплекснае мерапрыемства МУС «Увага - дзеці!», Паведамляе прэс-служба ДАІ МУС.

У дні правядзення спецмерапрыемстваў рух транспартных сродкаў у светлы час сутак павінен ажыццяўляцца з уключаным блізкім святлом фар (для прыцягнення ўвагі дзяцей і ўсіх удзельнікаў дарожнага руху).

За парушэнне гэтага пункта, як адзначылі ў ДАІ, кіроўца можа быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе папярэджання або штрафу ў памеры да дзвюх базавых велічынь.

Асноўная задача мерапрыемства - прафілактыка дзіцячага траўматызму на дарогах, а таксама тлумачэнне юным удзельнікам дарожнага руху правілаў бяспечных паводзінаў на дарогах.

# Створаныя ў 2016-2017 гадах вытворчыя МСП плануецца вызваліць ад падаткаў на два гады

■ БелТА

Малыя і сярэднія прадпрыемствы ў вытворчай сферы, створаныя ў Беларусі ў 2016-2017 гадах, плануецца вызваліць ад выплаты падаткаў на працягу двух гадоў, заявіў старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Міхаіл Мясніковіч у інтэрв'ю праграме «Галоўны эфір» на тэлеканале «Беларусь 1», перадае карэспандэнт БЕЛТА. «Неабходна разняволіць дзелавую ініцыятыву людзей. Міжведамасная рабочая група ўнесла, урад падтрымала такі элемент падтрымкі як малыя і сярэднія прадпрыемствы вытворчай сферы, створаныя ў 2016-2017 гадах, на два гады вызваліць ад усіх падаткаў, акрамя абавязковых страхавых плацяжоў», - адзначыў Міхаіл Мясніковіч. Паводле яго слоў, таксама плануецца паэтапна за кошт некаторага скарачэння даходнасці дэпазітаў банкаў зніжаць стаўкі па новых рублёвых крэдытах.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці М. Шарстнёў пацвердзіў, што неперспектыўныя школы, там дзе не камплектуюцца класы, будуць закрыты, дзяцей стануць вазіць на навучанне ў буйныя школы.

**Орша.** Мясцовы льнокамбінат адгрузіць у Індыю сваёй гатовай прадукцыі на 1 мільён долараў па дагаворы, падпісаным ў Дэлі на беларуска-індыйскім бізнес-форуме.

**Докшыцы.** Прадпрыемства "Віцебскторф" у мястэчку Крулеўшчына адзначыла свой 50-гадовы юбілей, сёлета тут сталі выпускаць новую прадукцыю – розны торф на экспарт.

**Талачын.** Кіраўнік аддзела па справах моладзі Віцебскай епархіі А. Кавалёў пацвердзіў, што школьнікі прадоўжаць ездзіць пад апекай казакоў у РФ на зборы з баевікамі "ДНР".

**Паставы.** Урадджэнка раёна, студэнтка 2 курса разам са сяброўкай па вучобе ў Беларускім тэхналагічным універсітэце былі збіты насмерць на тратуары вечарам у Мінску.

**Віцебск.** Больш 2 тысяч артыстаў выступілі ў Летнім амфітэатры на заключным гала-канцэрце абласнога агляду-конкурсу творчых калектываў пасля 6 адборачных тураў.

**Лепель.** Смяртэльную траўму атрымаў раніцай ля вёскі Вялікі Палсвіж 80-гадовы пенсіянер, які на веласіпедзе выехаў з прасёлачнай дарогі пад колы іншамаркі.

**Віцебск.** На працягу 10 дзён падчас Міжнароднага фестывалю "Славянскі базар" зноў будзе штодзённа хадзіць дадатковы поезд да беларускай сталіцы і назад.

**Лёзна.** Да 150-гадовага юбілею СШ № 1 правялі капрамонт сталовай і актавай залы, тут з'явіўся і высокахуткасны інтэрнэт з дапамогай Міністэрства сувязі і інфарматызацыі.

**Глыбокае.** У СШ № 1 прайшла літаратурна-песенная вечарына "Улюбёны ў музыку і ў Беларусь", прысвечаная славутаму артысту, заснавальніку "Песняроў" У. Мулявіну.

**Віцебск.** На плошчы Перамогі звыш 400 воінаў-дэсантнікаў, якія адслужылі патрэбны тэрмін, урачыста развіталіся са 103-й асобнай гвардзейскай мабільнай брыгадай.

**Полацк.** Ноччу ў выніку пажару згарэў дачны домік ў вёсцы Ткачова, з-за неасцярожнага абыходжання з агнём загінулі трое жыхароў Наваполацка ва ўзросце 57, 34 і 30 гадоў.

**Браслаў.** Да купальнага сезона на папулярным гарадскім пляжы на возеры Дрывяты работнікі ПМК-42 зрабілі спецыяльную хвойную дарожку ад дарогі да самога вадаёма.

**Орша.** Ноччу на перакрыжаванні дарог загінулі два вадзіцелі, 60-гадовы таксіст і 25-гадовы матацыкліст, абое 60 разоў штрафаваліся за парушэнні правілаў дарожнага руху.

**Наваполацк.** Перададзены гораду "Нафтанам" плавальны басейн у Палацы воднага спорту "Садко" пасля гадавога рамонту распачне сваю працу восенню.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Ірына Шылава: Музыка развівае памяць, мысленне, уяўленне, дапамагае на слыхавым узроўні вывучаць замежныя мовы

## Дні адчыненых дзвярэй прайшлі ў Глыбоцкай дзіцячай школе мастацтваў.

**Напрыканцы траўня ў Глыбоцкай дзіцячай школе мастацтваў (былая музычная школа) прайшоў Дзень адчыненых дзвярэй. Навучэнцы і іх педагогі далі паказальны канцэрт на розных тыпах музычных інструментаў. У якасці гледачоў запрашаліся вучні малодшых класаў усіх трох глыбоцкіх сярэдніх школ. Прыходзілі цэлымі класамі.**

■ **Уладзімір Скрабатун**

Навучэнцы школы мастацтваў прадставілі канцэрт амаль на ўсіх тыпах музычных інструментаў. Але, самае інтрыгуючае – на канцэрце прысутнічалі іх аднакласнікі. Для іх гэта было сапраўднае адкрыццё, яны і не падазравалі – на колькі іх сусед па парце можа быць таленавіты не толькі ў матэматыцы, ці літаратуры, але і ў музыцы.

Музыка – чараўніцтва! І гэта было "напісана" на тварах дзяцей, якія прысутнічалі на канцэрце ў якасці гледачоў. Слухалі "раскрыўшы рот"!

– **Якая мэта правядзення Дня адчыненых дзвярэй у Вашай школе мастацтваў?**– пытае аўтар гэтых радкоў у выкладчыка Ірыны Аляксееўны Шылавай.

– Перад пачаткам уступнай кампаніі ў нашу музычную школу мы заўсёды праводзім Дзень адчыненых дзвярэй для малодшых класаў школ нашага горада. Да нас ужо прыходзіла СШ №3, прыходзіла СШ №2, ну, а сёння, заключным акордам – 3-класнікі СШ №1. Для кожнай школы мы, менавіта, прадстаўляем нашых навучэнцаў, якія вучацца ў гэтых школах. Стараемся ствараць зорак унутры школы таксама.

Асноўная мэта Дня адчыненых дзвярэй – прывабіць дзяцей, каб прыходзілі вучыцца ў нашай школе мастацтваў. Ну, а многім дзецям, нашым навучэнцам, яшчэ падабаецца і выступаць.

У нас навучанне – платнае, але плата не такая ўжо і вялікая. Трэба адцягнуць дзяцей ад камп'ютараў, тэлевізараў, ад вуліцы, каб яны прыходзілі да нас вучыцца. Музыка развівае памяць, мысленне, уяўленне, дапамагае на слыхавым узроўні вывучаць замежныя мовы – і ў гэтым нашыя навучэнцы яскравы прыклад, развівае здольнасці ў матэматыцы. Навучанне дзяцей з розных школаў – падвышае здольнасці да камунікавання.

Ёсць у нашым горадзе месца, дзе вучаць чароўнаму. Музыка – чараўніцтва! Некаторыя бацькі, якія пражылі шмат гадоў у Глыбокім, на жаль, нават і не падазравалі, што ёсць такое месца, дзе навучаць чараўніцтву. Потым, калі дзеці выраслі, даведваюцца, шкадуюць: чаму мы гэтага не ведалі раней, аддалі б дзяцей у Вашую школу мастацтваў!

Вось такая мэта Дня адчыненых дзвярэй – давесці да ведама бацькоў, заахвоціць дзяцей вучыцца чароўнаму!



Гурт "Балаганчык". Справа – выкладчык Ірына Аляксееўна Шылава.



Чароўна гучаць цымбалы!

# Топ-10 самых беларускамоўных гарадоў і мястэчак краіны

Журналісты «Нашай Нівы» праанaлізавалі поўныя вынікі папярэдняга перапісу насельніцтва Беларусі і склалі своеасаблівы «рэйтынг беларускамоўнасці».

Колькі жыхароў у тым ці горадзе заявілі перапісчыкам, што размаўляюць дома па-беларуску? Самым беларускамоўным горадам Беларусі аказаўся Клецк.

| № | Горад | % |
|---|---|---|
| 1. | Клецк | 75,22% |
| 2 | Валожын | 65,38% |
| 3. | Глыбокае | 65,34% |
| 4. | Мядзел | 64,93% |
| 5. | Капыль | 64,76% |
| 6. | Іўе | 64,29% |
| 7. | Ляхавічы | 60,86% |
| 8. | Докшыцы | 59,67% |
| 9. | Тураў | 57,3% |
| 10. | Дзятлава | 53,7% |

| № | Мястэчка | Раён | % |
|---|---|---|---|
| 1. | Любча | Навагрудскі раён | 84,62% |
| 2 | Юрацішкі | Іўеўскі раён | 84,21% |
| 3. | Варапаева | Пастаўскі раён | 80,47% |
| 4. | Івянец | Валожынскі раён | 77,62% |
| 5. | Падсвілле | Глыбоцкі раён | 77% |
| 6. | Крывічы | Мядзельскі раён | 75,35% |
| 7. | Бобр | Крупскі раён | 73,26% |
| 8. | Шаркоўшчына | -- | 72,96% |
| 9. | Свір | Мядзельскі раён | 72,7% |
| 10. | Халопенічы | Крупскі раён | 71,71% |



# Колькасць дзяцей у Беларусі за 2015 год узрасла на 1,9 працэнта да 1 млн 824 тыс.

У Беларусі на 1 студзеня 2016 года пражывала 1 млн 824 тыс. дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў. У параўнанні з пачаткам мінулага года іх стала на 34 тыс. чалавек больш (на 1,9 працэнта), паведамілі БЕЛТА ў Нацыянальным статыстычным камітэце. З агульнай колькасці дзяцей на пачатак бягучага года 44 працэнты былі ва ўзросце да 7 гадоў (803 тыс.); 40,9 працэнта - ва ўзросце 7-14 гадоў (746 тыс.); 15,1 працэнта - ва ўзросце 15-17 гадоў (275 тыс. чалавек). Большасць дзяцей (78,3 працэнта) пражывае ў гарадах і пасёлках гарадскога тыпу. У краіне захоўваецца тэндэнцыя росту нараджальнасці. У 2015 годзе нарадзілася 119 тыс. дзяцей (на 494 дзіцяці больш, чым у 2014 годзе). Штогод хлопчыкаў нараджаецца больш, чым дзяўчынак. Так, у 2015 годзе нарадзілася58тыс.дзяўчынак і 61 тыс. хлопчыкаў. У апошнія гады больш за палавіну нараджэнняў звязаны з нараджэннем жанчынай другога, трэцяга і наступных дзяцей. У мінулым годзе доля дзяцей, народжаных другімі, склала 40,4 працэнта ад агульнай колькасці народжаных, трэцімі і больш - 16,8 працэнта. У рэспубліцы ў мінулым годзе нарадзілася 1 316 двайнят і 21 трайнят. Большасць дзяцей (86,2 працэнта) у 2015 годзе народжана жанчынамі, якія знаходзяцца ў зарэгістраваным шлюбе. Дзень абароны дзяцей, што прыпадае на першы дзень лета, адзначаецца ва ўсім свеце з 1950 года. Ён нагадвае грамадству аб неабходнасці абароны правоў, жыцця і здароўя дзіцяці.

*БелТА.*

# У Мінску аўтобусы больш не будуць адпраўляцца з аўтавакзала "Усходні"

**У Мінску з 1 чэрвеня спыняецца адпраўленне міжгародных і міжнародных аўтобусаў з аўтавакзала "Усходні". Усе аўтобусныя рэйсы пераносяцца на аўтавакзал "Цэнтральны". Пра гэта паведамілі на прадпрыемстве "Мінсктранс".**

Разам з тым аўтавакзал "Усходні" цалкам не зачыніцца: на яго тэрыторыі застанецца стаянка для адстою аўтобусаў, а таксама




працягне працаваць гасцініца, дзе кіроўцы змогуць адпачыць паміж рэйсамі.

Такім чынам, з улікам нядаўняга зачынення і зносу аўтавакзала "Маскоўскі" ў Мінску застанецца толькі адзін аўтавакзал, з якога будуць адпраўляцца міжгародныя і міжнародныя аўтобусы – "Цэнтральны".

*telegraf.by*

# Аб навядзенні парадку на зямлі

**Навядзенне парадку на зямлі і ахова глебы, падтрыманне тэрыторый у чысціні ад забруджвання мае вялікае культурнае і санітарна-эпідэміялагічнае значэнне і з'яўляецца абавязкам кожнага ўладальніка тэрыторыі.**

■ **Станіслаў Скіпар,**
*галоўны санітарны ўрач Глыбоцкага раёна*

У цяперашні час у нашым раёне праводзіцца праца не толькі ў плане навядзення элементарнага парадку на тэрыторыях, але і па афармленні малых архітэктурных формаў, кветкаваму афармленню клумбаў, усталёўцы архітэктурных элементаў і інш.

Маляўніча аформленыя тэрыторыі прыцягваюць увагу і радуюць жыхароў сваёй прыгажосцю і непаўторнасцю. Практычна ў кожным населеным пункце маюцца домаўладанні, гаспадары якіх з любоўю ўладкоўваюць сваё жыллё і падтрымліваюць належны парадак на сваім прысядзібным участку.

Разам з тым, на тэрыторыі раёна знаходзяцца яшчэ і такія домаўладанні і прадпрыемствы, на тэрыторыі якіх неабходна наводзіць належны парадак.

Забеспячэнне належнага санітарнага ўтрымання тэрыторый, памяшканняў вытворчых, адміністрацыйных і жылых будынкаў з'яўляецца істотным фактарам папярэджання ўзнікнення розных, у тым ліку інфекцыйных, захворванняў сярод насельніцтва.

Несвоечасовае выдаленне смецця і бытавых адходаў, а таксама будаўнічых матэрыялаў прыводзіць да забруджвання глебы, распладжвання мух, пацукоў і іншых шкодных жывёл і насякомых, якія з'яўляюцца пераносчыкамі інфекцый. Праз забруджаныя гародніну і садавіну, якая вырасла на забруджаных участках, чалавек можа заразіцца глістнымі інвазіямі, праз ваду перадаюцца некаторыя інфекцыйныя захворванні, у першую чаргу кішэчныя інфекцыі.

У месцах, дзе маецца высокі сухастой травы, на неапрацоўваемых працяглы час участках, каля звалак бытавога смецця выяўляецца значная колькасць кляшчоў, месцы гнездавання грызуноў. Менавіта таму важным мерапрыемствам у папярэджанні нападу і ўкусаў кляшчоў з'яўляецца скошванне травы, недапушчэнне ўтварэння і своечасовая ліквідацыя разнастайных звалак, правядзенне санітарных высечак.

Вываз цвёрдых бытавых адходаў павінен праводзіцца толькі на палігоны і мініпалігоны з мэтай прадухілення магчымага забруджвання глебы, ваданосных слаёў, грунтовых вод. Вывозіць смецце ў нявызначаныя для гэтых мэтаў месцы катэгарычна забараняецца (лесапалосы, ускраіны вёсак).

У наш час большасць індывідуальных жылых дамоў забяспечаны ўнутранымі санвузламі. Для збору гаспадарча-фекальных сцёкавых вод на прыватных падворках абсталююцца мясцовыя сэптыкі. Так як сцёкі з'яўляюцца значнымі забруджвальнікамі глебы, неабходна праводзіць своечасовую іх адпампоўку, не дапушчаючы перацякання праз люкі, асабліва небяспечна патрапленне сцёкаў у тыя месцы, дзе вырошчваюцца гародніна, ягады.

Катэгарычна забараняецца рабіць месцы захоўвання для адходаў, любых крыніц забруджвання паблізу шахтавых калодзежаў, з якіх у глебу і ваду могуць пранікаць хімічныя і бактэрыялагічныя забруджвальнікі, нельга прымяняць паблізу калодзежаў угнаенні і пестыцыды, таму што праз некаторы час шкодныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў крыніцах забруджвання, з'явяцца і ў вадзе калодзежаў.

Гэта звязана з тым, што зона збору вады калодзежа – гэта верхнія пласты ваданосных гарызонтаў, у якія пранікаюць шкодныя хімічныя рэчывы разам з дажджавымі ападкамі, пры раставанні снягоў і г.д.

На тэрыторыі прадпрыемстваў, прыватных падворках гэтак жа неабходна ў абавязковым парадку вылучаць і ўладкоўваць адмысловыя зоны складзіравання металалому, будаўнічых і іншых адходаў з мэтай прадухілення забруджвання глебы цяжкімі металамі. Дадзеныя пляцоўкі, дзе ажыццяўляецца часовае захоўванне адходаў, павінны мець цвёрдую аснову. Пры хаатычным захоўванні будаўнічых матэрыялаў, бярвення, металалому Вы рызыкуеце забрудзіць увесь свой участак шкоднымі хімічнымі рэчывамі, солямі цяжкіх металаў, такіх як кадмій, медзь, цынк, свінец, жалеза.

За санітарны стан падведамнай тэрыторыі нясе адказнасць кіраўнік канкрэтнай арганізацыі, за якой замацоўваецца дадзеная тэрыторыя, а за санітарны стан тэрыторыі прыватных домаўладанняў і прылеглых да прыватных домаўладанняў тэрыторый нясуць адказнасць уласнікі жылога памяшкання.

У выпадку непрыняцця мер па навядзенні належнага санітарнага парадку на замацаваных тэрыторыях адказныя асобы будуць прыцягвацца да адміністрацыйнай адказнасці.

Згодна артыкула 16.8 Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях за парушэнне санітарных нормаў, правілаў і гігіенічных нарматываў асоба, абавязаная выконваць гэтыя правілы, прыцягваецца да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе накладання штрафу ў памеры ад 2 да 30 базавых велічынь, індывідуальныя прадпрымальнікі – да 50 базавых велічынь, юрыдычныя асобы – да 200 базавых велічынь.

**Паважаныя жыхары, рэгулярна наводзячы парадак на сваёй замацаванай тэрыторыі і на прыватным падворку, мы ўсе разам зможам зрабіць наш раён яшчэ прыгажэйшым і прывабнейшым.**



Такія звалкі бытавых адходаў можна бачыць непадалёк ад вёскі Гарадзец па дарозе на мініпалігон.

# Далей адпісак справа не ідзе

**Жыхар вёскі Гарадзец Шаркоўшчынскага раёна Іван Новікаў ужо шэсць гадоў змагаецца за тое, каб мясцовае начальства вырашыла пытанне з навядзеннем парадку на мясцовым мініпалігоне для бытавых адходаў, а таксама на тэрыторыях, прылеглых да ракі Мнюта.**

■ **Зміцер Лупач,** *тэкст і фота*

Адказы на свае звароты Іван Мікалаевіч атрымлівае з розных інстанцый рэгулярна, іх сабралася ў яго ўжо добрая кіпа, але вось далей гэтых адпісак справа пакуль не ідзе.

Гарадзец размешчаны побач з былым мястэчкам Лужкі, гэтыя населеныя пункты ўтвараюць адзіны жылы масіў. Сметнік, або як ён афіцыйна называецца палігон цвёрдых бытавых адыходаў, знаходзіцца непадалёк ад паселішча на тэрыторыі былога свінакомплекса. Яго плошча складае каля 18 гектараў. Тут стаяць закінутыя будынкі, на дахах якіх растуць дрэвы, уся плошча парасла баршчэўнікам, з якім тут ніхто не змагаецца. Ды і змагацца з ім тут даволі праблематычна – уся тэрыторыя закіданая смеццем.

Яно выкідваецца тут не толькі на тэрыторыю ўласна палігона, але пачынаючы яшчэ за кіламетр да яго. Паабапал дарогі валяюцца кучы смецця, а непадалёк ад гэтага месца працякае рака Мнюта. Час ад часу смецце на палігоне паляць, што, вядома, забаронена. Паляць яго як тыя, хто збірае металалом, бо ў спаленай кучы лягчэй шукаць метал, так, відаць, і самі камунальнікі. Апошні раз смецце гарэла вясной гэтага года, агонь пакрыў тэрыторыю прыкладна 10 га, бо ўсё навокал было зарослы някошанай травой. А агонь знішчае таксама і жывых



арганізмы, у тым ліку і карысныя для прыроды.

Раней на сметніку працаваў чалавек, які сачыў тут за парадкам. Але потым яго скарацілі, і на палігоне смецце сталі выкідваць дзе хто хоча і як хоча. І каб у гэтым пераканацца, не трэба чытаць адказы розных службовых асобаў, дастаткова туды з'ездзіць. Аўтар з'ездзіў туды на ровары з Глыбокага. А што перашкаджае адказным асобам, якія маюць службовыя аўтамабілі, наведвацца туды, каб сачыць за парадкам, невядома. Магчыма, не стае часу. Бо я неаднаразова спрабаваў датэлефанавацца да начальніка інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Шаркаўшчынскага райвыканкама Івана Міхалёнка, але безвынікова.

Дарэчы, рашэннем Віцебскага аблвыканкама Івану Міхалёнку 27 студзеня гэтага года прысвоена ганаровае званне "Чалавек года Віцебшчыны" якраз за ахову навакольнага асяроддзя.

Дарэчы, за пажар гэтага года пакаралі штрафам начальніка мясцовай жыллёва-камунальнай гаспадаркі. Гэта рашэнне Іван Новікаў лічыць несправядлівым, бо рашэнне аб скарачэнні работніка, які сачыў за парадкам на мініпалігоне, прымалася вышэй, у Шаркоўшчынскім райвыканкаме.

Таксама шмат смецця было накідана ў Лужках проста каля ракі Мнюта, дзе калісьці быў млын графа Плятэра. Тут трэба адзначыць, што пасля неаднаразовых зваротаў Івана Новікава, большую частку смецця ўсё ж прыбралі.

Змагаецца за парадак Іван Новікаў пакуль адзін, астатнія жыхары да гэтага ставяцца або абыякава, або баяцца страціць працу, з якой у былым мястэчку зараз вялікія праблемы. Іван Мікалаевіч усё ж спадзяецца, што разам гэту праблему можна вырашыць.

**Уважаемый Иван Николаевич!**

Шарковщинская районная инспекция природных ресурсов и охраны окружающей среды рассмотрела Ваше обращение с выездом в КУПсхП «Городец».

В ходе совместного с Вами обследования мест указанных Вами в обращении райинспекция информирует Вас, что на дату обследования скотомогильник не обнаружен, территория убрана.

По поводу навозных стоков от частных подворий направлены информационные письма для реагирования в Шарковщинский районный центр гигиены и эпидемиологии и Лужковский сельский исполнительный комитет.

Ветеринарный врач КУПсхП «Городец» привлечен к административной ответственности за несвоевременную утилизацию неизвестного вещества белого цвета.

Выдано предписание главному агроному и руководству КУПсхП «Городец» о необходимости наведения надлежащего порядка за складом минеральных удобрений и уборки территории за административным зданием.

По мини-полигону Фабьяново руководству УКП ЖКХ Шарковщинского района выдано предписание о необходимости до 21.11.2011 г. выполнить подбуртовку отходов, а начальнику участка указано на необходимость извлечения вторичных материальных ресурсов (далее – ВМР) и недопущении в дальнейшем захоронения их на мини-полигоне.

**Гэты адказ датаваны 8 лістападам 2011 года. Але за пяць гадоў нічога не змянілася. Смецце як выкідвалася, так і выкідваецца, а Іван Мікалаевіч працягвае атрымліваць адказы, што ўсё ў парадку.**

